НАРОДНЫ
АРТЫСТ
БССР



# Уладыслаў Галубок

*ГАЛУБОК Уладыслаў Язэпавіч, першы Народны Артыст Савецкай Беларусі.*

*Нарадзіўся ў Менску ў сям'і сьлесара чыгуначнага дэпо ў 1882 годзе. Скончыў гарадзкую школу, працаваў на чыгунцы, як рахункавод. З 1908 году зьмяшчаў у газэце „Наша Ніва" кароткія апавяданьні з жыцьця сялян. З 1917 г. пачаў пісаць драматычныя творы, якія і ставіў арганізаваным ім у 1920 годзе тэатральным колектывам. З маленькага аматарскага колектыву тэатр ГАЛУБКА вырас у вельмі папулярны на Беларусі Дзяржаўны Вандроўны тэатр, які абслугоўвае самыя глухія мястэчкі і нават вёскі, а таксама і рабочыя прыгарады.*

*ГАЛУБОК Уладыслаў выявіў пры гэтым арганізацыйны талянт, вялізную энэргію і надзвычайную працаздольнасьць, сумяшчаючы ў сваёй асобе на працягу дзесятка гадоў дырэктара, рэжысэра, актора і драматурга свайго колектыву.*

*Ім напісана болей 20 п'ес, з якіх асабліва папулярны бытавыя драмы і комэдыі: „Суд", „Ганка", „Апошняе спатканьне", „Пан Сурынта", „Плытагоны" „Пісаравы імяніны" ды інш. 7—8 месяцаў у год яго трупа вандруе па Беларусі, пакрываючы часта сотні кілёмэтраў на падводах, а то і пешкі і даючы ў год болей за 200 спэктакляў. Савецкая Ўлада, пры якой і разгарнуў сваю дзейнасьць ГАЛУБОК, надала яму ў сьнежні 1928 году годнасьць НАРОДНАГА АРТЫСТА САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ.*

